ГРОДНА
№11 (563),
30 мая 2021

# СЛОВА ЖЫЦЦЯ

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ



## Таямнічы Бог



*Трыадзіны Бог з'яўляецца цудоўным і найдасканалейшым узорам стварэння і будавання міжасабовых адносін паміж людзьмі.*

*на старонцы* 2

## 30-ая гадавіна прыняцця біскупскай сакры пастыра дыяцэзіі



*У гэты дзень вернікі маглі не толькі маліцца за свайго пастыра, але і асабіста выказаць яму віншаванні.*

*на старонцы* 4

## Цярністы ці просты, або Пра доўгі шлях да святарства



*Брат баніфратар Эмануэль Юран пра дарогу з медустановы ў кляштар.*

*на старонцы* 5

# А. АНДРЭЙ АГЕЛЬ SP: "БУДСЛАЎ НАС АБ'ЯДНОЎВАЕ"



**Так склалася, што сведкамі пажару ў Будславе стала група піярскай моладзі са Шчучына. Якраз у гэты дзень выпускнікі прыбылі ў санктуарый памаліцца аб бласлаўленні на далейшы жыццёвы шлях.**



*Група маладых вернікаў са Шчучына ў будслаўскай святыні за некалькі гадзін да пажару*

*на старонцы* 3

СЛОВА РЭДАКТАРА

# Дарагія Чытачы!



Сёлета, калі перажываем 30-ую гадавіну адраджэння касцёльных структур у Беларусі, нам давялося дасведчыць боль і смутак, выкліканы бездапаможнасцю перад пажарам, які атакаваў Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе.

З Божай дапамогай былі выратаваны Найсвяцейшы Сакрамант і цудатворны абраз Маці Божай, а сам будынак касцёла, які з'яўляецца важным цэнтрам духоўнага жыцця, а таксама ўнікальным помнікам сакральнай архітэктуры і мастацтва, быў моцна пашкоджаны. Святыня, пабудаваная нашымі продкамі з вялікай любоўю да Бога і Яго Найсвяцейшай Маці, патрабуе рэстаўрацыі, каб зноў прымаць паломнікаў.

Няхай Божы Провід накіроўвае нас на шляхі надзеі, каб, аднаўляючы матэрыяльнае, змаглі ўмацаваць духоўнае і праславіць нашага Пана і Творцу.

Будзем верыць, што дзякуючы сумесным намаганням і, перш за ўсё, з Божай дапамогай наш нацыянальны санктуарый адновіць свой бляск: "Брамы Ерусаліма будуць адноўлены, […] гучаць будуць песнямі радасці, і ўсе яго дамы будуць усклікаць: «Алелюя, хай будзе праслаўлены Бог Ізраілеў!»" (Тоб 13, 17. 18).

ks. Jerzy Martinowicz

КАЛЯНДАР

**31 мая**
***Свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.***
*У перыяд паміж Звеставаннем Пана і нараджэннем св. Яна Хрысціцеля, Касцёл успамінае наведванне св. Альжбеты Марыяй. Гэта быў не толькі візіт Марыі да маці прарока, але, найперш, сустрэча Месіі з яго Папярэднікам.*

**1 чэрвеня**
***Міжнародны дзень дзіцяці.***
*Гэты дзень з'яўляецца святам усіх дзяцей. З-за пандэміі сёлета таксама не будзе Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці. Таму арганізатары перадаюць хлопчыкам і дзяўчынкам самыя цёплыя віншаванні, жадаюць добрага адпачынку і спадзяюцца на хуткую сустрэчу. Падтрымаем сваімі малітвамі ўсіх дзяцей нашай дыяцэзіі і паклапоцімся пра іх рэлігійнае выхаванне.*

**3 чэрвеня**
***Урачыстасць Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста (Божае Цела).***
*Гэтая ўрачыстасць прыпадае на першы чацвер пасля нядзелі Найсвяцейшай Тройцы і з'яўляецца адной з самых важных урачыстасцей у Каталіцкім Касцёле. У гэты дзень адбываецца эўхарыстычныя працэсіі вуліцамі нашых гарадоў. Так вернікі дэманструюць сваю прыналежнасць да Касцёла і выказваюць веру ў Езуса Хрыста.*

**6 чэрвеня**
***Дыяцэзіяльны дзень бацькі.***
*Дзень бацькі адзначаецца ў Гродзенскай дыяцэзіі ў першую нядзелю чэрвеня. У гэты дзень ва ўсіх мясцовых касцёлах і капліцах узносяцца малітвы за жывых і памерлых бацькаў, дзякуючы ім за неацэнны ўклад у грамадскае жыццё і выхаванне ў веры будучых пакаленняў.*

**11 чэрвеня**
***Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Пана Езуса.***
*Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса Каталіцкі Касцёл адзначае ў пятніцу пасля актавы Божага Цела. Згодна з папскай ініцыятывай, гэта таксама дзень малітвы аб святасці святароў. З-за важнасці ўрачыстасці ў гэты дзень не абавязвае пакаянная практыка ўстрымання ад мясных страў.*

**12 чэрвеня**
***Успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.***
*Першыя сляды культу Сэрца Марыі мы сустракаем ужо ў XII стагоддзі. У вялікіх маштабах яго развіў св. Ян Эд (1601–1680). Культ, які пашыраў святы, насіў назву Найсвяцейшага альбо Найсалодшага Сэрца Марыі.*

# ТАЯМНІЧЫ БОГ

працяг са с. 1

**Кожны год, перажываючы ўрачыстасць Найсвяцейшай Тройцы, мы дакранаемся да адной з такіх таямніц веры, якія не падлягаюць чалавечай логіцы і не могуць быць зведзены да нашых людскіх разумовых схем. Св. Аўгусцін у сваёй "Споведзі" сцвярджаў, што мала душ, якія, гаворачы пра Тройцу, ведаюць, што гавораць.**

**Аднак бясспрэчная ісціна заключаецца ў тым, што Бог заўсёды быў, ёсць і будзе АДЗІНЫ. Дык як па-людску зразумець гэтую догму, у якой удзельнічаем?**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Пэўнай дапамогай можа стаць для нас св. Патрык, "апостал Ірландыі", які жыў у IV стагоддзі. Гэты мудры і святы місіянер тлумачачы складаную і таямнічую ісціну хрысціянскай веры тым, хто шукаў сапраўднага Бога, выкарыстаў лісток канюшыны. Ён паказаў тры асобныя лісцікі, злучаныя адным сцяблом. Падобна таму, як ёсць адзін Бог, але ў трох Асобах, так і канюшына, развіваючыся з аднаго сцябла, дае тры лісткі. Праз гэтую расліну святы паспрабаваў паказаць Бога, які паступова адкрываецца нам, а таксама растлумачыць догму пра Святую Тройцу.

**Найсвяцейшая Тройца з'яўляецца Любоўю. Айцец – Той, хто любіць, Сын – Той, каго любяць, а Святы Дух – гэта сама Любоў.**

Да той самай веры, якой былі прываблены вучні св. Патрыка, прыцягнуты кожны чалавек. Аднак, як паказвае жыццё, сучасныя людзі занадта занятыя, каб мець час на сустрэчу са складанымі для людскога разумення таямніцамі сваёй веры. Даволі часта здараецца, што ў нас шмат праблем у гэтай сферы. Можам казаць сабе: для чаго мне патрэбны Трыадзіны Бог? У мяне ёсць добрая праца, і гэта самае важнае, каб забяспечыць блізкім дастойныя ўмовы жыцця. Я веру ў Бога, але нейкая там Тройца мяне сёння не цікавіць. Ці Яна дасць мне на ежу? Калі не, то, магчыма, падумаю пра гэта іншым разам.

Адказам на такія частыя абвінавачванні можа быць узгадванне факта з нашай чалавечай гісторыі. Бог адзіны і будзе такім заўсёды, але Яго Асобы займаюць асаблівае месца і па-асабліваму дзейнічаюць у гісторыі чалавецтва і Сусвету.

Можна заўважыць тры этапы дзеяння Адзінага Бога ў трох Асобах. Час Бога Айца – час Старога Запавету. Гэта Ён стварае і заклікае да жыцця. Гэта Ён хоча чыніць дабро, нягледзячы на людскую ўпартасць і частыя нараканні ў нашых сэрцах. Гэта Ён прагне зрабіць з нас – у гісторыі і сёння – новы і святы народ.

Паўнатой дзеяння Бога Айца з'яўляецца другі этап Яго Аб'яўлення – Асоба




Езуса Хрыста. Хоць зямная чыннасць другой Асобы – Сына Айца – выглядае досыць кароткай, яна вельмі плённая. На працягу трыццаці трох гадоў Езус з Назарэта, сапраўдны чалавек і сапраўдны Бог, паказваў людзям непаўторнае аблічча Бога Айца. Сваімі словамі, а перш за ўсё сваімі міласэрнымі ўчынкамі, Ён адкрывае нам, які на самой справе Бог Айцец і наколькі Яму важна шчасце чалавека, а таксама, што самае галоўнае, яго вечнае жыццё.

Нарэшце, трэці этап пазнання і дзеяння нашага Адзінага Бога – сучаснасць. Дух Айца, Дух Езуса, Святы Дух – гэта Ён сёння дзейнічае ў Касцёле і ў свеце. Часам нам можа здавацца, што злы валадарыць, але канчатковая перамога належыць Святому Духу. Мы ўсе напоўнены Ім і адначасова запрошаны верыць у Адзінага Бога, хоць Ён і праяўляе сябе ў Трох Асобах. І як існуе камунія (суадносіны) паміж трыма Божымі Асобамі, так мы запрошаны да камуніі з людзьмі, якія нас акружаюць.

**Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы сёлета адзначаем у нядзелю 30 мая.**

# А. АНДРЭЙ АГЕЛЬ SP: "БУДСЛАЎ НАС АБ'ЯДНОЎВАЕ"

працяг са с. 1

**Размаўляем з а. Андрэем Агелем, духоўным кіраўніком моладзі са Шчучына, пра ўражанні і пачуцці з той паездкі, значэнне Будслава для беларусаў і хвалю салідарнасці пасля пажару.**

Арцём Ткачук



А. Агель

Падчас св. Імшы ў будслаўскай святыні ў інтэнцыі распазнання далейшага жыццёвага шляху

***– Адкуль узялася ідэя ездзіць з выпускнікамі менавіта ў Будслаў?***

– Калісьці, яшчэ ў 2011 годзе, у супольнасці піяраў у Шчучыне быў на практыцы кл. Павел Беразун. Ён і прапанаваў, каб дзеці і моладзь, пераважна выпускнікі, у знак падзякі за заканчэнне школы ездзілі ў Нацыянальны Санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Каб маглі там памаліцца за свой далейшы жыццёвы шлях: добра здаць экзамены, вырашыць пытанне з паступленнем ці зрабіць іншыя жыццёвыя выбары.

Упершыню такая паездка адбылася ў 2012 годзе – на бусе і машыне кл. Павел і а. Віталь Слука разам з моладдзю адбылі пілігрымку ў Будслаў. З таго часу за гэты выезд быў адказны а. Віталь.

***– Колькі маладых людзей штогод выязджала ў гэтае паломніцтва?***

– Прыкладана 12-13 чалавек. Былі жадаючыя, хто хацеў – ехаў.

***– То-бок, гэта не ўсе выпускнікі, якія ў Вас ёсць, а толькі тыя, хто хацеў паехаць?***

– Так, гэта тыя, хто хадзіў на катэхезу і падрыхтоўку да сакраманту канфірмацыі, а таксама пасля яго. У большасці старэйшая моладзь і выпускнікі.

***– Як Вам здаецца, за 12 гадоў цікавасць да Будслава сярод моладзі расла ці памяншалася?***

– Цяжка сказаць, бо я толькі з 2019 года служу ў Шчучыне. Па расказах а. Віталя, магу сказаць, што цікавасць заўсёды была. Маладзёны дзяліліся ўражаннямі пасля пілігрымкі, былі захоплены ўбачаным у пазітыўным сэнсе. Адчувалі ласку Маці Божай Будслаўскай.

***– Як выпускнікі ўспрымаюць сам побыт у санктуарыі? Вы там начуеце, адпраўляеце св. Імшу, праводзіце больш часу. Што азначае для іх гэты побыт?***

– Увогуле, я сёлета быў першы раз з моладдзю ў Будславе. Наша пілігрымка была запланавана па розных пунктах: Іўе, Гудагай, Хатынь... Аднак усе разумелі, што мэта паездкі – санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Мы прыехалі позна ўвечары 10 мая, каля 22-ой гадзіны. Яшчэ паспелі адправіць вячэрнюю св. Імшу. Можна сказаць, што мы былі апошнімі сведкамі выгляду святыні да пажару. На наступны дзень планавалі паўдзельнічаць у св. Імшы а 8-ай раніцы, а пасля пайсці разам з мясцовым пробашчам паглядзець наваколле. Аднак замест гэтага сталі відавочцамі пажару. Моладзь дапамагала выносіць усё з касцёла.

***– Калі вярталіся дадому, напэўна, была нейкая рэфлексія наконт здарэння. Як моладзь успрыняла сітуацыю з пажарам?***

– Мы сталі першымі валанцёрамі. Не маглі паверыць, калі выцелі з дома. Не задумваючыся ні над чым, пабеглі выносіць рэчы. Потым падышлі мясцовыя людзі, апусціліся на калені і пачалі маліцца перад святыняй. Наша моладзь адступіла ў бок і таксама стала адгаворваць Ружанец, каб нікому не перашкаджаць.

Туды ехалі з радасцю, а вярталіся ў цішыні. І ў гэтай цішыні ўсе разумелі самае страшнае: ты бачыш, як агонь паглынае гэтую прыгажосць і каштоўнасць, аднак не можаш нічога зрабіць. Агонь – гэта страшна. Нездарма спяваецца: "Ад паветра, голаду, агню, вайны выбаў нас, Пане".

Я разумеў, што моладзь непакоіцца. Думаю, пасля вяртання яны дзяліліся перажываннем са сваімі сем'ямі, сябрамі. Бясспрэчна, гэта было моцнае духоўнае перажыванне.

***– Магчыма, маладзёны ўпершыню сутыкнуліся з падобнай сітуацыяй, якія, на жаль, нярэдка здараюцца ў нашым жыцці: ты нічога не можаш зрабіць, толькі стаіць і глядзець?***

– І маліцца. У дадзенай сітуацыі – нічога, акрамя малітвы. Так, яны зразумелі, што ёсць моманты, калі застаецца толькі малітва.

***– Чытаючы СМІ, чуючы розныя каментарыі, складваецца ўражанне, што пасля пажару Будслаў зрабіўся яшчэ больш родным, больш важным для людзей. А Вы гэта адчуваеце?***

– Так. Прытым не толькі сярод католікаў, але і сярод іншых хрысціянскіх канфесій. Адчуваецца вялікая салідарнасць з боку праваслаўных. У Шчучыне гэта было асабліва заўважна, бо нашы праваслаўныя вельмі турбаваліся: "Гарэў жа храм, Божы дом". Думаю, можа, гэта такі знак для беларусаў. Нехарошая сітуацыя аб'яднала ўсіх хрысціян, увесь народ.

Другі бок медаля – нас звязала бяда. Рука дапамогі працягвалася ад абсалютна розных людзей. Вельмі шмат было таксама фінансавай дапамогі. Можна сказаць, што de facto збор сродкаў на аднаўленне будслаўскай святыні стаў самай вялікай акцыяй падтрымкі Касцёла ў Беларусі. Яшчэ ніколі за такі кароткі час не збіралася столькі грошай.

Таксама, згодна з заклікам Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў, ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа ва ўсіх парафіях Беларусі быў арганізаваны збор сродкаў на тую ж мэту. Людзі з вялікім трапятаннем падышлі да справы. Гэта было бачна па іх ахвяраваннях, па іх малітве. Мы ў Шчучыне пасля Імшы яшчэ шмат маліліся за аднаўленне Будслава, за ахвярадаўцаў, за пробашча, святароў і біскупаў.

***– Кс. Андрэй, а можаце падзяліцца, колькі ў парафіі сабралі грошай на рамонт касцёла ў Будславе ў гэтую нядзелю? У параўнанні з іншымі зборамі – гэта больш, рэкордна больш ці звычайная сума?***

– Яшчэ не падлічылі, але, па маіх назіраннях, гэта будзе рэкорд з кожнага боку. Гледзячы, як збіраліся грошы каля выхаду з касцёла – адназначна рэкорд.

***– 20 гадоў таму на Гродзеншчыне пра Будслаў мала чулі. Хадзілі ў Тракелі, Вострую Браму, у Чанстахову ездзілі. Але за апошнія дзесяцігоддзі Будслаў стаў такі ж блізкі. Як гэта адбывалася, як Вам бачыцца гэты працэс?***

– Не магу не згадзіцца. Калі я быў яшчэ зусім маладым святаром, няшмат чуў пра Будслаў. Ён толькі дзесьці ўзгадваўся. Цешуся, што паступова пачалі ладзіцца пілігрымкі з розных напрамкаў. Памятаю, як наша мясцовая працоўная і сямейная моладзь далучалася да гэтых паломніцтваў. Так паступова інфармацыя перадавалася.

Пасля туды пачалі ездзіць аўтобусныя пілігрымкі. Культ Маці Божай Будслаўскай развіваўся дзякуючы, перш за ўсё, паломніцкаму руху, дзякуючы публікацыям у СМІ. Думаю, цяпер пра Будслаў ведаюць усе.

***– Мне падаецца, што за гэтыя дзесяцігоддзі Будслаў стаў месцам яднання не толькі беларускіх католікаў. Ён з'яднаў усіх беларусаў, стаў важны для ўсяго народа. Вы гэта адчуваеце?***

– Адназначна так! Адчуваю, чую размовы, кантактую з праваслаўнымі. Паўсюль падкрэсліваецца, што гэта Нацыянальны Санктуарый Беларусі. Хоць маем Лагішын, Тракелі і іншыя санктуарыі, Будслаў з'яўляецца нацыянальным – гэта ранг, усебеларускі узровень. І гэта нас аб'ядноўвае.



catholic.by

Пасля выратавання ўсіх магчымых рэчаў мясцовыя вернікі моляцца перад святыняй

## АКТУАЛЬНА

*Ватыканскае радыё*

### Новыя рэкамендацыі па правядзенні дыяцэзіяльных Дзён моладзі

"Душпастырскія рэкамендацыі па правядзенні СДМ у мясцовых Касцёлах" прадставілі ў Ватыкане. Святкаванне дыяцэзіяльных Дзён моладзі цяпер будзе адбывацца ва ўрачыстасць Хрыста Валадара.

Аўтары рэкамендуюць уключыць дыяцэзіяльныя ўрачыстасці ў больш шырокі кантэкст круглагадовай працы з моладдзю, каб дапамагчы маладому пакаленню ў наладжванні цесных сувязей з Касцёлам. Яны таксама адзначаюць, што новаўвядзенне можа стаць магчымасцю ажывіць усю касцёльную супольнасць і сустрэцца з моладдзю, якая па розных прычынах да гэтага часу заставалася далёкай ад Касцёла.

Дакумент быў падрыхтаваны Дыкастэрыяй па справах свецкіх, сям'і і жыцця пасля кансультацый з маладзевымі душпастырамі і маладымі людзьмі з усяго свету.

### Беатыфікаваны заснавальнік сальватарыянаў

У Рыме прайшла беатыфікацыя кс. Францішка Марыі ад Крыжа Ёрдана, заснавальніка Таварыства Боскага Збаўцы і кангрэгацыі Сясцёр Боскага Збаўцы.

"Харызматычная інтуіцыя бл. Францішка дапамагла шматлікім жанчынам і мужчынам розных нацыянальнасцей і моў наследаваць Евангелле, а праз дзейнасць Сальватарыянскай сям'і паспрыяла распаўсюджванню збаўчага паслання ў больш чым 50 краінах", – заўважыў Папскі вікарый для Рымскай дыяцэзіі кардынал Анджэла Дэ Данаціс. Ён узначаліў урачыстую беатыфікацыйную св. Імшу, якая прайшла ў рымскай базіліцы св. Яна на Латэране.

У Беларусі сальватарыяне служаць толькі ў Віцебскай дыяцэзіі – у Браславе, Урбанах, Слабодцы і Віцебску.

### Святы Пасад у АБСЕ: не дыскрымінаваць веру ў сферы інфармацыі

Пастаянны назіральнік Апостальскай Сталіцы ў АБСЕ выказаўся на тэму важнасці свабоды прэсы для прасоўвання дэмакратыі і справядлівасці ў сучасным грамадстве.

Кс. Януш Урбанчык перасцярог СМІ ад блакіравання і скажэння інфармацыі, якая тычыцца рэлігіі, веры і маралі, што адбываецца сёння ўсё часцей. Ватыканскі дыпламат нагадаў, што прэса і сродкі масавай інфармацыі з'яўляюцца інструментамі, неабходнымі для гарантавання празрыстай і праўдзівай інфармацыі, прасоўвання свабоды.

### Малітоўныя інтэнцыі на чэрвень

**паўсюдная**

Молімся за маладых людзей, якія рыхтуюцца да сужэнства пры падтрымцы хрысціянскай супольнасці – каб яны ўзрасталі ў любові з велікадушнасцю, вернасцю і цярплівасцю.

**дыяцэзіяльная**

Молімся, каб Пан блаславіў супольнасць Жывога Ружанца і іншыя малітоўныя таварыствы ў нашай дыяцэзіі.

# 30-АЯ ГАДАВІНА ПРЫНЯЦЦЯ БІСКУПСКАЙ САКРЫ ПАСТЫРА ДЫЯЦЭЗІІ




працяг са с. 1

**Ва ўрачыстасць Спаслання Святога Духа біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч адзначаў 30-годдзе прыняцця біскупскай сакры. Яна адбылася 23 мая 1991 года ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне. Галоўным кансэкратарам пасвячэння быў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.**

*Кс. Юрый Марціновіч*

Угэты важны для сябе дзень іерарх наведаў дзве парафіяльныя супольнасці нашай дыяцэзіі – санктуарый Пана Езуса Журботнага ў Росі і парафію Узвышэння Святога Крыжа ў Лідзе.

Цэлебруючы ўрачыстыя св. Імшы ў гэтых святынях, іерарх сваімі малітвамі ахінаў усіх, хто стварае Гродзенскі Касцёл – вернікаў і духавенства. Падчас гэтых Эўхарыстый біскуп таксама ўдзяліў вернікам сакрамант хрысціянскай сталасці.

Пастыр Касцёла на Гродзеншчыне звярнуўся з асаблівай просьбай да маладых людзей, каб адкрыліся на дар Духа, які пакажа ім правільны шлях, навучыць паўнаце Праўды і нададсць глыбокі сэнс чалавечаму і хрысціянскаму існаванню.

Ва ўсіх святынях Гродзенскай дыяцэзіі вернікі асаблівым чынам маліліся за свайго пастыра, які кіруе дыяцэзіяй з моманту яе ўзнікнення, а таксама, дзякуючы Пану Богу за ўсе дары і ласкі, праспявалі радаснае "Te Deum laudamus".

## ПАЎСЮДНЫ КАСЦЁЛ

**ЛАТВІЯ.** Латвійскі Касцёл узмацняе абарону непаўналетніх. У Рызе быў арганізаваны спецыяльны сімпозіум для духавенства, кансэкраваных асоб і людзей, што ўдзельнічаюць у душпастырстве, які быў прысвечаны злоўжыванням у Касцёле. Мерапрыемства адбылося ў аддаленым рэжыме з-за эпідэмічных абмежаванняў і было падрыхтавана Рыжскім інстытутам рэлігійных навук (RARZI). Сустрэча не абмежавалася прэзентацыяй ватыканскіх дакументаў, а ўтрымлівала шмат элементаў, звязаных з практыкай прадухілення злоўжыванняў. Сустнасць заключалася асаблівым чынам у прыцягненні ўвагі да лёсу ахвяр такіх злачынстваў, як педафілія, што часта адыходзіць на другі план у запале прававой і палітычнай барацьбы.

**ІРАК.** Пасля сакавіцкага візіту папы Францішка ў Ірак у нешматлікай хрысціянскай меншасці з'явілася новая надзея на паляпшэнне палітычнай сітуацыі. 10 кастрычніка жыхары краіны абяруць новы парламент. Іракская выбарчая сістэма прадугледжвае як мінімум пяць месцаў для хрысціянскай меншасці. Як паведамляе венскі экуменічны фонд "Pro Oriente", сярод кандыдатаў на 325 месцаў ёсць 34 хрысціян. Партал "Ankawa" апублікаваў імёны балаціруемых хрысціян, з якіх толькі некаторыя прадстаўляюць палітычныя партыі, астатнія – незалежныя кандыдаты.

**ПОЛЬШЧА.** Галоўны санітарны інспектар апублікаваў "Кіраўніцтва для арганізатараў паломніцкага руху падчас эпідэміі COVID-19 у Польшчы". Згодна з гэтым Канферэнцыя епіскапату Польшчы заклікала арганізатараў пілігрымак прытрымлівацца прадпісаных указанняў. Леташнія абмежаванні прымусілі некаторыя дыяцэзіі адмовіцца ад паломніцтваў. Але поўнасцю традыцыя пілігрымавання ў Польшчы не перарывалася. Тыя пілігрымкі, што адбыліся, скончыліся бяспечна, з двума-трыма выпадкамі сімптомаў COVID-19. У сувязі з гэтым Савет КЕП па міграцыі, турызме і паломніцтвах просіць арганізатараў усіх пілігрымак скарэктаваць свае арганізацыйныя планы згодна з указанымі патрабаваннямі, выкарыстоўваючы леташні вопыт бяспечнай лагістыкі ва ўмовах пандэміі.

**ЭФІОПІЯ.** Як гаворыцца ў паведамленні Эфіопскай Артадаксальнай Царквы, якое раздабылі журналісты "The Telegraph", з пачатку канфлікту ў эфіопскім рэгіёне Тыграй загінула ўжо па меншай меры 78 святароў. Па словах відавочцаў, забойствы здзяйснялі эфіопскія і эрытрэйскія салдаты. Пасля зносу касцёльных будынкаў і манастыроў войска пачало паляванне на духавенства. Некаторых забівалі нават падчас праведзення набажэнстваў альбо цэлебрацыі св. Імшы.

*Падрыхтавана на падставе інтэрнэт-крыніц.*

# ПАЖАР У БУДСЛАВЕ: ГАЛОЎНАЕ ПРА ЗДАРЭННЕ Ў САНКТУАРЫІ




**Раніцай 11 мая ўся краіна "ахнула" ад навіны пра пажар у адной з галоўных святынь Беларусі – санктуарыі Маці Божай Будслаўскай. Патушыць агонь не ўдавалася на працягу некалькіх гадзін, і ў выніку базіліка панесла вялікія страты.**

Быў знішчаны дах, моцна пашкоджаны скляпенні святыні і іншыя будаўнічыя канструкцыі. Што датычыць аргана, як адзначае спецыяліст Аляксандр Бурдзялёў, яго стан моцна не змяніўся, але гэта не азначае адсутнасці пашкоджанняў у доўгатэрміновай перспектыве (у сувязі з адсутнасцю даху касцёла). Найсвяцейшы Сакрамант і цудадзейны абраз Маці Божай Будслаўскай уратаваныя – яны былі вынесены з касцёла ў першую чаргу. Абраз знаходзіцца ў бяспечным месцы і неўзабаве зноў будзе даступны для ўшанавання вернікамі. Таксама дзякуючы дапамозе мясцовых парафіян у першую гадзіну пасля пажару з базілікі былі вынесены ўсе магчымыя рэчы.

Прычына ўзгарання пакуль невядомая. Па факце пажару распачата крымінальная справа.

На дадзены момант спецыялісты паступова прыступаюць да працы па ліквідацыі наступстваў надзвычайнай сітуацыі. Як адзначае дырэктар НВУП "Будрэканструкцыя" Генадзь Малашук, асноўныя праблемы будуць звязаны з пошукам адпаведнага дрэва для канструкцый даху будслаўскага касцёла – у Беларусі іх знайсці амаль немагчыма, таму, верагодна, прыйдзецца замаўляць архангельскі ці сібірскі лес, што пацягне за сабой вельмі дарагое транспартаванне. З гэтага вынікаюць і іншыя цяжкасці: адтэрміноўка з аднаўленнем даху вельмі небяспечная, бо лета і восень у краіне даждлівыя, а вільгаць будзе шкодзіць інтэр'еру святыні. Выхад шукаюць у накрыцці касцёла часовым дахам.

Зразумела, пасля пажару на неакрэслены перыяд забаронена эксплуатацыя будынка пацярпелага касцёла. Мясцовыя вернікі збіраюцца на св. Імшы і набажэнствы ў капліцы будслаўскага дома Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта.

Аднак, нягледзячы на згаданыя абмежаванні, урачыстасці ў гонар Апякункі Беларусі Маці Божай Будслаўскай пройдуць без змен – 2 і 3 ліпеня.

**Нацыянальны санктуарый у Будславе з'яўляецца гісторыка-культурнай каштоўнасцю першай катэгорыі, а значыць мае агульнанацыянальнае значэнне для ўсёй Беларусі. Будслаўскі фэст унесены UNESCO ў Рэпрэзэнтатыўны спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва.**

Святкаванні плануецца правесці ў традыцыйным фармаце, але з захаваннем належных санітарных прадпісанняў і без арганізаваных пілігрымак. Пры гэтым усе ахвотныя могуць ладзіць паломніцтвы ў індывідуальным парадку.

Пажар у Будславе – гэта выклік, які дае магчымасць ізноў праявіць дух салідарнасці і нагадвае, што ў складаныя часы грамадска-палітычнага крызісу духоўнае аднаўленне патрэбна ўсяму беларускаму народу.

**Як здзейсніць ахвяраванне праз сістэму "Разлік" (АРІП):**

1. ***Выберыце ў плацёжным тэрмінале пункты ў наступным парадку:***
   - Система «Расчёт» (ЕРИП) (па нумары паслугі 4349831)
   - Благотворительность и общественные объединения
   - Помощь детям, взрослым
   - Каритас Минск Пожертвования
2. ***Для аплаты ўвядзіце прозвішча, імя, імя па бацьку і мэту ахвяравання – БУДСЛАЎ.***
3. ***Увядзіце суму ахвяравання.***
4. ***Праверце карэктнасць інфармацыі.***
5. ***Завяршыце плацёж.***

**Рэквізіты для ахвяраванняў:**
Религиозная миссия «Благотворительное католическое общество Каритас» Минско-Могилевской архиепархии
Тел/факс (8 017) 515-31-08
УНП 101131305
223058 Минский р-н, д. Лесковка, ул. Каритас, 1
р/с BY16 PJCB30150531141000000933
«Приорбанк» ОАО, БИК PJCBBY2X

**Ахвяраванне можна зрабіць і на разліковы рахунак парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Будславе:**
Религиозная община «Римско-католический приход Успения Пресвятой Девы Марии» аг. Будслав Мядельского района
222374 Минская обл., Мядельский р-н, аг. Будслав, ул. Красная площадь, 8
р/с BY12BAPB30153404200100000000
ОАО «Белагропромбанк», г. Минск
код банка BAPBBY2X
УНП 600195666

**Дадатковы рахунак для грамадзян Польшчы:**
Перайсці на партал zrzutka.pl, далей увесці ў пошукавы радок "Ratowanie spalonej bazyliki (Budsław, Białoruś)", перавесці адвольную суму грошай з дапамогай анлайн-аперацыі.

***На дзень 23 мая на адбудову касцёла сабрана больш за 400 тысяч беларускіх рублёў.***

*Матэрыял падрыхтаваны на падставе інтэрнэт-старонак Budslau.by, Catholic.by і тэлеграм-канала "Адновім Будслаў разам".*

# ЦЯРНІСТЫ ЦІ ПРОСТЫ, АБО ПРА ДОЎГІ ШЛЯХ ДА СВЯТАРСТВА

працяг са с. 1

***Матэрыял завяршае цыкл сведчанняў духоўных асоб, якія адкрылі сваё пакліканне пасля разнастайнага жыццёвага досведу.***

*Ангеліна Марцішэўская*



Бр. Эмануэль у сваёй паслузе спалучае клопат пра духоўнае і фізічнае здароўе чалавека

## Бр. Эмануэль Юран: *“Распазнанне паклікання – працэс працягласцю ў жыццё”*

Брат Эмануэль Юран належыць да Шпітальнага Ордэна св. Яна Божага, або, як яго яшчэ называюць – ордэна баніфратраў. Як вынікае з самой назвы супольнасці, харызмай манахаў з’яўляецца клопат пра хворых. Бр. Эмануэль – прыклад чалавека, які здолеў спалучыць свой першасны жыццёвы досвед са служэннем Богу. Ён скончыў медыцынскі ўніверсітэт, пасля ўступіў у кляштар, а цяпер служыць у “Хрысціянскім сацыяльным цэнтры” ў Мінску, клапоцячыся пра людзей з абмежаванымі магчымасцямі, і адначасова працуе ў гарадской паліклініцы.

***“Я нарадзіўся ў Мінску ў звычайнай савецкай сям’і. Сакрамант хросту прымаў ужо ў свядомым узросце – пасля «перабудовы», разам з маці і сястрой. Мяне пачаў вабіць Касцёл, але не ва ўзнёслым, а ў куды больш празаічным сэнсе: падабалася архітэктура святынь і тое, што ў каталіцкай супольнасці размаўлялі па-беларуску. Гэта мела празаходні характар і выклікала цікавасць”***, – распавядае бр. Эмануэль.

Манах прызнаецца, што першапачатковы ўспрымаў Бога як “чараўніка”, які спецыялізуецца на выкананні жаданняў і з якім заўсёды можна дамовіцца. Таму і стаўленне было адпаведнае. ***“Скончыўшы школу, я паабяцаў Госпаду, што, калі Ён дапаможа мне паступіць у медуніверсітэт, я пачну хадзіць у касцёл і выконваць неабходныя рэлігійныя практыкі. І я паступіў. А пасля курсу катэхезы прыадкрыў для сябе сапраўдную постаць Бога. І Ён мяне раптам цалкам скарыў”***, – адзначае брат.

Малады чалавек працягваў вучобу, а ўнутры перыядычна нарастала жаданне пайсці ў кляштар. Разважаў над рашэннем на працягу 6-ці гадоў, але, толькі стаўшы выпускніком, зразумеў, што хоча далучыцца да баніфратраў.

***“Бацькі не былі ў захапленні, бо мелі савецкае ўяўленне пра манаскія ордэны. Думалі, што буду хадзіць у лахманах і жыць у хаціне. Аднак, зразумела, рэчаіснасць братоў баніфратраў выглядае інакш. Тыповая супольнасць мае кляштар і вялікую медыцынскую або апякунскую ўстанову** (у Беларусі баніфратры распачалі сваю дзейнасць толькі ў лютым 2020 года, таму пакуль не маюць адмысловага месца служэння – заўв. аўт.)**”***, – дадае бр. Эмануэль.

Разважаючы пра сэнс служэння супольнасці, манах заўважае, што малітва з’яўляецца стрыжнем, на які нанізваюцца іншыя абавязкі: ***“Мы ахінаем малітоўнай апекай немачных, супрацоўнікаў медыцынскіх устаноў і іх валанцёраў. Таксама імкнёмся евангелізаваць медыцынскі персанал і пацыентаў. І разам з гэтым клапоцімся пра «абалонку». Інакш кажучы, ідзём да душы праз цела”***.

За некалькі месяцаў служэння ў Беларусі бр. Эмануэль зразумеў, што ў краіне складаная сітуацыя са становішчам інвалідаў. ***“На вуліцах амаль не заўважыць гэтых людзей. Адзінкі. І гэта не прыкмета іх адсутнасці. Гэта ўказвае на тое, што яны амаль не выбіраюцца з дому, бо проста не існуе ўмоў для іх бяспечнага перамяшчэння. Я служыў у Польшчы, бываў у Іспаніі і Італіі – там людзі з абмежаванымі магчымасцямі – актыўная частка супольнасці”***, – распавядае манах.

Таму тут бр. Эмануэль пакуль бачыць сваю місію ў клопаце пра тых, хто не можа клапаціцца пра сябе. Разам з тым манах дадае, што распазнанне свайго паклікання – гэта амаль бясконцы працэс. ***“Калі гаворка ідзе пра служэнне ў межах манаства ці святарства – трэба быць асцярожным. Не варта гуляць са словамі тыпу «я пачуў голас Бога», бо тут можа крыцца спакуса нахіліць Яго на сваё падабенства. У выніку можам перажыць крызіс, бо гэта мы маем Божы вобраз, а не наадварот. Бога не агарнуць, мы будзем шукаць і спрабаваць асэнсаваць Яго на працягу ўсяго жыцця***, – разважае бр. Эмануэль. – ***У пастырскай паслузе шмат узнёслых рэчаў: прыгожыя шлюбы, урачыстыя працэсіі, натхняльныя спевы. Часта маладыя людзі могуць акцэнтаваць менавіта гэта, а сутыкаючыся з кляштарнай рэчаіснасцю, адчуваць расчараванне. Аднак да святасці ніколі не вяла пампезнасць. Хутчэй звычайныя, напоўненыя руціннымі абавязкамі дні”***, – падкрэслівае.

Бр. Эмануэль лічыць, што недаацэньванне вартасці простых рэчаў і шэрай рэчаіснасці вядзе да разгубленасці маладых людзей, якія шукаюць сваёй рэалізацыі ў свецкім жыцці. Масмедыі выпукляюць поспяховых людзей, адсоўваючы на другі план асоб менш прываблівых прафесій. Аднак можна выконваць “малы” абавязак і пры гэтым быць шчаслівым. Можна проста быць ветлівым падчас працы і ўсцешыць гэтым шматлікіх людзей.

ЭКАЛАГІЧНАЯ ЦНОТА



*Алена Майсюк*

# РЭАЛЬНЫЯ ДЗЕЯННІ З КЛОПАТАМ ПРА СУПОЛЬНЫ ДОМ




**Дзейнасць чалавека на Зямлі прывяла да скарачэння і знікнення многіх прадстаўнікоў відаў флоры і фауны. Як мы можам пачаць змяняць свет навокал, каб выправіць памылкі, кампенсаваць страты добрымі справамі для аднаўлення натуральнай прыроды? Кожны ў сілах зрабіць шмат карыснага для павелічэння біяразнастайнасці на Зямлі і аднаўлення балансу.**

### “МАЛІТВА БЕЗ УЧЫНКАЎ МЁРТВАЯ”

Энцыкліка Папы Рымскага Францішка “Laudato si’” пра клопат аб супольным доме можа стаць крыніцай натхнення для дзеянняў кожнага чалавека. Заўсёды ёсць магчымасць дапамагчы прыродзе рэальнымі ўчынкамі. Так пачаў рэалізоўвацца праект па вяртанні дзікіх соў сіпух на тэрыторыю Беларусі. Дзякуючы намаганням святароў і актывістаў экалагічных арганізацый, у Шылавічах, Гнезне, Рэплі і Індуры вежы касцёлаў ужо падрыхтаваны да прыёму сіпух.

Святыні, якія маюць даўнюю гісторыю, памятаюць гэтых птушак. Яны любілі сяліцца пад стрэхамі, дапамагалі пазбаўляць мясцовых жыхароў ад грызуноў і проста цешылі сваім мілым выглядам. Але інтэнсіўнае развіццё сельскай гаспадаркі, рэстаўрацыйныя работы, вырубка лясоў, а да таго ж серыі халодных зім без уцепленых хованак прывялі да знікнення сіпух.

Рэдкія іх пары засяляліся з тэрыторыі суседняй Польшчы, дзе валанцёры ўжо даўно ствараюць умовы для пражывання птушак на вежах святынь. Як і любая жывая істота, сіпухі памятаюць домік, у якім нарадзіліся, і, пакідаючы “бацькоўскі дом”, шукаюць падобныя ўмовы. Вось чаму будынкі касцёлаў з’яўляюцца ўпадабанымі месцамі засялення сіпух. Іншыя віды птушак таксама ахвотна могуць засяляць тэрыторыю святынь і вежы, калі чалавек дапаможа ім у гэтым.

### ЯК ТЭРЫТОРЫЯ КАСЦЁЛА МОЖА СТАЦЬ ДАСТУПНАЙ УСІМ?

Святыня з’яўляецца, у першую чаргу, месцам малітвы і сустрэчы чалавека з Богам. Аднак гэта таксама месца сустрэч людзей, дзе можна абменьвацца ідэямі, перадаваць інфармацыю і вопыт. Гэта яшчэ і выдатнае месца, дзе варта распачаць адукацыйную дзейнасць, даць магчымасць увасабляць свае ідэі ў жыццё.

Прапануем варыянты пасільных кожнаму спраў, каб наблізіць прыроду да чалавека і стаць сапраўдным адлюстраваннем слоў Папы ў сваім населеным пункце.

***1.*** Шпакі, сініцы, мухалоўкі, гарыхвосткі, малінаўкі, зяблікі і многія іншыя птушкі ахвотна прыляцяць да вас, калі на тэрыторыі ёсць дрэвы і кусты. ***Устанаўлівайце гнездзішчы для розных відаў птушак.*** Птушыны спеў аказвае спрыяльны ўплыў на чалавечае здароўе, унутраныя рытмы ўсіх органаў вяртаюцца да натуральнага функцыянавання.

***2.*** Дрэвы і кусты могуць стаць для чалавека сховішчам ад сонца і ветру, а для птушак – месцам гнездавання, пошуку ежы і запасаў на зіму. ***Высаджвайце шыпшыну, глог, рабіну, бузіну, вінаград, костачкавыя і семечкавыя расліны.*** Ваша тэрыторыя стане раем для птушак.

***3.*** Дробныя жывёлы, яшчаркі, жабы, кажаны любяць сяліцца ў садах і паядаць насякомых. Але для іх павінны быць месцы хованак: старыя галінкі дрэў, лістота, камяні, няскошаная трава, месцы пад стрэхамі. ***Зладзіць такія хованкі – цалкам у вашых сілах.***

***4.*** Стрыжаныя газоны зусім непрыдатныя для натуральнай прыроды. На іх няма хованак ад ветру, сонца, дажджу, замаразкаў. Гэта прыводзіць да безжыццёвага існавання тэрыторыі. А адтуль, адкуль сыходзіць прырода, неўзабаве сыдзе і чалавек. Толькі на няправільна перакапанай зямлі з’яўляецца бур’ян. ***Калі не перашкаджаць прыродзе лапатай і плугам, яна сама адновіць баланс***, і ўжо на наступны год вы ўбачыце, як выдатна зямля становіцца домам для ўсяго жывога. Так можна праводзіцьназіранне за натуральным жыццём.

***5. Пакідайце апалае лісце або прыбірайце яго ў адно месца для дапамогі насякомым і некаторым дробным жывёлам.*** Дадаткова можна стварыць домікі для насякомых (перапончатакрылых, жукоў). У такіх хованках адзіночныя восы і пчолы змогуць выводзіць патомства, а розныя бесхрыбетныя (павукі, божыя кароўкі) – хавацца ад сонца і зімаваць.

***6. Высаджвайце кветкі, сады.*** Гэта прыцягвае матылькоў, пчол. Яны з’яўляюцца памочнікамі ў стварэнні ўраджаю. Колер важны для гармоніі ў чалавеку, калі ён сузірае. А пах кветак неабходны для добрага настрою.

Калі чалавек зменіць свой стасунак да прыроды, праявіць мудрасць, карысна будзе ўсім.

ДАПАМАГЧЫ ДОБРАЙ РАДАЙ

# ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ ДЗІЦЯ НЕ ХОЧА РАЗМАЎЛЯЦЬ З БАЦЬКАМІ?



*Кс. Павел Салабуда, псіхолаг*

Часцей за ўсё падобныя сітуацыі бываюць, калі дзіця губляе давер да бацькоў. Тады яно не хоча размаўляць, не гаворыць пра свае праблемы, а на кожнае пытанне адказвае ўхіліста. Што трэба рабіць, каб дзіця зноў стала адкрытым на сваіх бацькоў? Адзін з найбольш эфектыўных спосабаў – спецыяльныя гульні ў давер.

Аднак спачатку неабходна зразумець, адкуль бяруцца такія сітуацыі, калі дзіця закрываецца ад сваіх блізкіх. Здавалася б, яно наадварот павінна мець найлепшы кантакт з бацькамі. Але, на жаль, так бывае не заўсёды. Усім нам добра вядома выхаваўчая ісціна, што дзіця вучыцца розным жыццёвым правілам ад дарослых. Давайце ўявім сітуацыю, калі мама пытаецца ў таты, як было на працы, а ён адказвае толькі нешта накштальт "нічога новага". Спытайма ў сябе, які ўрок атрымлівае дзіця, чуючы такую гутарку? Калі бацькі хочуць, каб іх сын ці дачка размаўлялі з імі, самі спачатку павінны навучыцца размаўляць.

Такім чынам, каб разабрацца, што рабіць з дзецьмі, калі губляецца сувязь, трэба пачаць з бацькоў.

***1. На працягу некалькіх дзён уважліва назірайце, як вы размаўляеце паміж сабой і з дзіцём, звяртайце ўвагу на тое, як яно рэагуе на розныя сітуацыі дома.***

***2. Усе назіранні запісвайце, але не каментуйце. Прытым кожны з бацькоў павінен рабіць уласныя нататкі.***

***3. Праз некаторы час прачытайце запісы адзін аднаму і параўнайце апісаныя паводзіны. Верагодна, вас чакае мноства сюрпрызаў.***

***4. Падлічыце сітуацыі, у якіх вашы паводзіны дакладна паўтарыліся. Напрыклад, калі бацькі не ядуць разам на кухні, не дзіўна, што дзіця есць альбо перад тэлевізарам, альбо ў адзіноце ў сваім пакоі.***

***5. Усведамляючы, што дзіця капіруе паводзіны бацькоў, спачатку выпраўце ўласныя памылкі ў зносінах. Нельга рабіць дзецям заўвагі за тое, што робім мы самі. Варта таксама ў размове з дамачадцамі пазбягаць пастаяннай ацэнкі, крытыкі і натацый.***

Другі этап – праца разам з дзіцём. Калі сын ці дачка малыя альбо малодшага школьнага ўзросту, можна прапанаваць ім гульню з пытаннем "дзе ты любіш знаходзіцца?". На аркушы паперы трэба запісаць розныя месцы, дзе бывае дзіця (напрыклад: дом, школа, спартыўны клуб, дом бабулі ды дзядулі і да т. п.), а затым прапанаваць малому раскласці карткі з нумарамі ў адпаведнасці з правілам: першая – дзе падабаецца быць больш за ўсё, а апошняя – дзе менш за ўсё. Акрамя таго, гульня і сумесная праца дазволяць бацькам наблізіцца да дзіцяці. Калі ж сын ці дачка дарослыя, можна з імі пагаварыць на гэтую тэму альбо прапанаваць разам наведаць любімыя месцы. Падчас такой гульні можна задаваць розныя пытанні, што датычаць выбраных месцаў, а дзіця павінна расказаць пра свае перажыванні і пачуцці, звязаныя з імі.

Нельга забываць, што крыніцай прыгнечанасці дзіцяці могуць быць і яго адносіны з людзьмі. Калі справа менавіта ў гэтым, можна прыдумаць іншую гульню. Напішыце на асобных картках імёны людзей, з якімі дзіця часцей за ўсё кантактуе, а затым, задаючы разнастайныя пытанні (напрыклад, з кім яно хацела б паляцець у космас і да т. п.), прапануйце наўгад выцягнуць карткі. Назірайце за рэакцыяй дзіцяці на выбраныя імёны.

Памятайма, што гульні вельмі расслабляюць дзяцей і спрыяюць большай адкрытасці. Такая форма камунікацыі будзе лепшай, чым дабівацца сур'ёзнай размовы альбо крычаць на дзіця. Важна выкарыстаць кожную магчымасць зблізіцца са сваім сынам ці дачкой, якія ў любы момант могуць прызнаць, што з бацькамі можна размаўляць.

Добрым прыкладам у выхаванні дзяцей і моладзі з'яўляецца св. Ян Боско, які выдатна разумеў, што каб наладзіць з дзіцём добры кантакт, варта прапанаваць яму заняткі, якія падабаюцца, якія яно жадае. Няма дзяцей, што не любілі б гуляць, таму такім чынам можна вельмі дапамагчы сабе ў іх выхаванні.

# ШТО БОГ КАЖА ПРАЗ ЦУДЫ?

**Эўхарыстычны цуд – гэта асаблівы тып цуду, непарыўна звязаны з адной з найвялікшых таямніц веры – пераісточаннем хлеба і віна ў Цела і Кроў Езуса Хрыста падчас Эўхарыстыі. Дзякуючы сваёй літаральнай прыродзе ён дае нам зразумець рэальнасць гэтай перамены, якая адбываецца на алтары падчас кансэкрацыі.**

*Апрацаваў кс. Юрый Марціновіч*

Першым эўхарыстычным цудам лічыцца падзея, якая адбылася ў пачатку VIII стагоддзя ў італьянскім Ланчана, калі пэўны святар з ордэна св. Базыля, які сумняваўся ў пераісточанні, цэлебраваў св. Імшу ў манастыры св. Лонгіна. Калі ён скончыў прамаўляць словы кансэкрацыі, гостыя ў яго руках ператварылася ў фрагмент Цела, а віно ў келіху – у Кроў.

Хоць большасць вядомых эўхарыстычных цудаў узыходзіць да часоў Сярэднявечча, некаторыя з іх адбыліся і ў апошнія гады. Падобныя цуды здзяйсняюцца па ўсім свеце. У розных яго кутках іх адбылося больш за 130, а некаторыя здарыліся ў суседняй з намі краіне – Польшчы.

***Вось 4 эўхарыстычныя цуды, зафіксаваныя на працягу апошніх 20-ці гадоў:***

### ТЫСТЛА, МЕКСІКА

У час рэкалекцый 21 кастрычніка 2006 года, калі пачалося ўдзяленне св. Камуніі, з гостыі вылучылася чырванаватае рэчыва. У кастрычніку 2009 года мясцовы біскуп Алеха Завала Кастра стварыў спецыяльную камісію для расследавання і вызначэння, ці была гэтая падзея жартам ці сапраўдным цудам.



Срэбны рэлікварый з Ланчана, які змяшчае перамененыя Цела і Кроў Хрыста

Навуковыя даследаванні, праведзеныя ў 2009–2012 гадах, даказалі, што падазронае рэчыва, якое знаходзіцца на гостыі, звязана з чалавечай крывёю. А два даследаванні вядомых экспертаў-крыміналістаў сцвердзілі, што рэчыва паступала знутры гостыі, тым самым выключаючы магчымасць таго, што хтосьці мог змясціць яго звонку. У заяве выразна гаворыцца, што гэтаму інцыдэнту няма натуральнага тлумачэння.

### САКУЛКА, ПОЛЬШЧА

12 кастрычніка 2008 года падчас ранішняй св. Імшы ў парафіі св. Антонія Падуанскага ў аднаго са святароў гостыя ўпала на падлогу. Святар падняў яе і ў адпаведнасці з літургічнымі нормамі выврашыў пакласці ў васкулум (спецыяльную пасудзіну з вадой), каб яна там растварылася.

Праз тыдзень адна з сясцёр закрыстыянак адчула далікатны водар незаквашанага хлеба, што ішоў з сейфа. Адкрыла яго і заўважыла на гостыі чырвоную пляму, якая выглядала, як сапраўдная кроў.

Пра справу быў праінфармаваны мясцовы ардынарый арцыбіскуп Эдвард Азароўскі, мітрапаліт Беластоцкі. Ён парэкамендаваў пачакаць яшчэ. 29 кастрычніка са здзіўленнем было сцверджана, што гостыя не раскладаецца, а сляды крыві яшчэ больш прыкметныя.

Узор з гостыі прайшоў два незалежныя аналізы, у выніку якіх былі зроблены аднолькавыя высновы: фрагменты гостыі, несумненна, мелі чалавечае паходжанне, і іх марфалагічныя асаблівасці ўказвалі на падабенства з клеткамі сардэчнай мышцы. Навукоўцы не змаглі растлумачыць, як магчыма, што час не паўплываў на распад тканкі і яна ўсё яшчэ знаходзіцца ў перадсмяротным працэсе.

### ЧЫРАТАКОНАМ, ІНДЫЯ

28 красавіка 2001 года ў мясцовым парафіяльным касцёле святар заўважыў цудоўную выяву, якая з'явілася на гостыі.

У сваім сведчанні ён напісаў, што, калі выставіў Найсвяцейшы Сакрамант, убачыў на ім тры кропкі. Святар глядзеў на манстранцыю і прапанаваў вернікам паглыбацца гэтай з'явай. 5 мая 2001 года ён адкрыў табернакль і ўбачыў на гостыі чалавечы твар. Засумняваўся, ці гэта не толькі яго ілюзія, таму спытаў у міністранта, ці бачыць ён там што-небудзь. "Я бачу постаць чалавека", – адказаў той.

З цягам часу вобраз стаў больш выразны і прадставіў мужчыну, падобнага на Езуса, увенчанага шыпамі. Па гэты дзень гостыю ўшаноўваюць.

### ЛЯГНІЦА, ПОЛЬШЧА

На Божае Нараджэнне, 25 снежня 2013 года, на падлогу касцёла св. Яцка ўпала гостыя. Яе паднялі і змясцілі ў васкулум. Неўзабаве святар заўважыў на ёй сляды крыві. Біскуп Стэфан Ціхі, тагачасны ардынарый, вырашыў стварыць спецыяльную камісію для назірання і расследавання ўсёй гэтай з'явы.

Па просьбе іерарха ў 2014 годзе кафедра судовай медыцыны правяла даследаванні асобных фрагментаў. На гістапаталагічным малюнку назіраліся фрагменты тканак, характэрныя для сэрца ў агоніі.

### ПАСЛАННЕ БОГА ДА ЧАЛАВЕКА

Кожны дзень, нават у кожную яго секунду, у нейкім месцы ў свеце цэлебруецца св. Імша, падчас якой Езус бяскроўна ахвяруе сябе Айцу за нас. Аднак час ад часу Хрыстос дае асаблівыя знакі – эўхарыстычныя цуды. Робіць гэта, каб заахвоціць нас больш глыбока ўдзельнічаць у Эўхарыстыі і ўскладаць на Яго ўсю надзею.

Здарэнні пад знакам эўхарыстычнага цуду прымушаюць нас усвядоміць, наколькі разнастайнай можа быць мова, на якой размаўляе Бог. Аднак гэтая мова заўсёды зразумелая веруючаму чалавеку. Творца дае нам выразны знак сваёй прысутнасці і свайго рэальнага існавання.

# ЧАГО АД НАС ХОЧА БОГ?

*“Мы ведаем таксама, што ўсё служыць на карысць тым, хто любіць Бога і хто паклікаваны па Яго пастанове”.*

Рым 8, 28

Людвіга Цыдзік




### ШТО МЫ МОЖАМ ДАЦЬ БОГУ?

Пан Езус аддаў сваё цела і праліў сваю кроў за нас. А што мы можам даць Яму ўзамен? Чаго Бог чакае ад нас? “Сыне мой! аддай сэрца тваё мне, а вочы твае хай сочаць за шляхамі маімі” (Прып 23, 26). Гэтым адным сказам Творца акрэслівае свае чаканні адносна чалавека, увесь сэнс яго існавання і паклікання. Бог Айцец патрабуе чыстага, вернага, бездакорнага сэрца, якое выпраменьвае любоў, падобна сонцу ці золату.

Мы ўсе паклікаты Богам ісці Яго дарогай. “Ён уратаваў нас і паклікаў святым пакліканнем не за нашы ўчынкі, але паводле ўласнай пастановы і ласкі, дадзенай нам у Хрысце Езусе перад вечнымі часамі” (2 Цім 1, 9). У той момант, калі чалавек адгукаецца на заклік Бога: “Так, Пане, я хачу ісці за Табой і быць Табе верным!” – для кожнага хрысціяніна пачынаецца няпросты шлях духоўнага развіцця і цяжкіх выпрабаванняў.

### СЛОВА = УЧЫНАК

Шмат хто лічыць, што, становячыся вучнямі Хрыста, мы павінны атрымаць пэўны прывілей недатыкальнасці з боку зла, перастаць зазнаваць жыццёвыя цяжкасці, праблемы і балючыя перажыванні. Аднак, каб магчы стаць Божым чалавекам не з назвы, а па сутнасці, каб сэрца запалала ўсёпаглынальнай любоўю, мудрасць Усявышняга падрыхтавала для нас некалькі іншы план.

«Сымоне, сын Яна, ці любіш ты Мяне больш, чым яны?». Той адказаў Яму: «Так, Пане, Ты ведаеш, што я люблю Цябе» (Ян 21, 15). Тры разы Сымон Пётр паўтараў Езусу, што любіць Яго. Тым не менш, сустрэўшы першае выпрабаванне, вучань адразу ж адрокся ад свайго Настаўніка. А якая цана нашых слоў, малітваў і зарокаў вернасці? “Не кожны, хто кажа Мне: «Пане, Пане», увойдзе ў Нябеснае Валадарства, але той, хто выконвае волю Айца Майго, які ў нябёсах” (Мц 7, 21).

Ці нашы ўчынкі адлюстроўваюць словы і заявы? Ці любім Езсуса толькі тады, калі Ён нас благаслаўляе і калі ўсё добра? Што адбудзецца, калі сутыкнёмся з пераследам, грэбаваннем, ілжывым абвінавачваннем, здрадай, крытыкай, забыццём, прыніжэннем, цяжкай хваробай, хваляй няўдач, прыгнётам і іншымі нягодамі? Ці будзем мы мужна абараняць Хрыста і надалей давяраць Яму, а можа, баязліва адвернемся ад Яго?

### ВЫПРАБАВАННЕ АГНЁМ

У большасці выпадкаў мы не можам дакладна адказаць на гэтае пытанне, пакуль не сутыкнёмся з цяжкім досведам. Таму наша вернасць Езусу правяраецца і выпрабоўваецца на сапраўднасць, стойкасць і вартасць на працягу ўсяго жыцця. Бог жадае, “каб праверанная ваша вера аказалася нашмат каштоўнейшай за тленнае золата, якое выпрабоўваюць агнём, на славу, і хвалу, і пашану падчас аб’яўлення Езуса Хрыста” (1 П 1, 7).

Золата – самы цэнны з каштоўных металаў з унікальнымі якасцямі, такімі як нязломнасць, устойлівасць да ўздзеяння паветра, кіслароду і кіслот. Яно не падвяргаецца працэсам іржаўлення, пацямнення альбо распаду. На працягу стагоддзяў золата было сімвалам чысціні і каралеўскай годнасці. Аднак, каб атрымаць чыстае золата, патрэбны правільны інструмент і вельмі высокая тэмпература.

Падобным чынам Бог выкарыстоўвае людзей як інструменты, а напружаныя жыццёвыя сітуацыі – як агонь і высокую тэмпературу, дзякуючы якім можа ўчыніць з чалавека найвышэйшую каштоўнасць. “І сядзе, як плавільшчык і як той, хто ачышчае серабро, і ачысціць сыноў Левія, і пераплавіць іх, як золата і серабро, і яны будуць прыносіць Пану ахвяру ў справядлівасці” (Мал 3, 3).

Усявышні хоча, каб наша вернасць і давер былі падобныя на золата, сталі ўстойлівымі да знешняга псавання і спакус свету, каб не вагаліся, калі прыйдзе прыгнёт. Пан Езус папярэдзіў сваіх паслядоўнікаў, што ў гэтым свеце яны будуць выпрабоўвацца пакутамі: “У свеце зведаеце ўціск, але будзьце адважнымі: Я перамог свет” (Ян 16, 33).

### СЭНС ЦЯРПЕННЯ

Боль і падзенне адкрываюць вочы на праўду пра нас саміх, адрываюць ад змроку цялеснасці і духоўнай цемры. Праз пакуты чалавек лепш пазнае сваю душу, сапраўдную натуру, свае магчымасці і слабыя бакі. Журба ачышчае чалавека ад недахопу пакоры, ад занадта высокіх уяўленняў аб сабе. Бяда, праз якую праходзім, з’яўляецца лакмусавай паперкай, якая паказвае, дзе мы апускаем рукі і даём сябе ахапіць расчараванню, роспачы ды жалю, а дзе духоўна ўмацоўваемся і сталеем для поўнага самаадрачэння.

Хрысціянін церпіць для таго, каб Божы вобраз, страчаны ў выніку падзення ў грэх, мог у ім аднавіцца, каб ён мог памерці для сваіх капрызаў, жаданняў, мар ды сладастраснасці і стаць дасканалай ахвярай. Таму, калі зрабілася так цяжка, што ўжо немагчыма спраўляцца, калі пакінулі цялесныя і духоўныя сілы, трэба пачаць жыць толькі Езусам і для Езуса.

### ДАСЛЕДУЙ ІНТЭНЦЫІ СВАЙГО СЭРЦА

Любоў да Творцы рэалізуецца праз аддане служэнне бліжняму. Таму ў сваіх паводзінах мусім даследаваць інтэнцыі свайго сэрца. Што становіцца матывацыяй нашых учынкаў: уласны эгацэнтрызм ці дабро бліжняга? Каму і чаму служыць наша сэрца і душа? Дзеянні, якія не спараджаюць любоў у сэрцы, не варта здзяйсняць. Пачуцці, якія не набліжаюць да Бога, не вартыя Божага дзіцяці. Думкі, якія не ўмацоўваюць веру, з’яўляюцца непатрэбным баластам для душы. Рашэнні, якія не заснаваны на Божай волі, становяцца шляхам памылак і зла. Мусім рабіць гэта, каб наша жыццё было плённым для Неба.

“Прыкладайце ўсе намаганні, каб дапоўніць вашу веру цнотай, цноту – пазнаннем, пазнанне – стрыманасцю, стрыманасць – цярплівасцю, цярплівасць – набожнасцю, набожнасць – братняю любоўю, а братнюю любоў – любоўю. Калі ўсё гэта ў вас ёсць і памнажаецца, то вы не будзеце бяздзейнымі ды бясплёнымі ў пазнанні Пана нашага Езуса Хрыста. У каго ж няма гэтага, той сляпы, закрыўшы вочы, забыўся пра ачышчэнне ад сваіх даўніх грахоў. Таму, браты, старайцеся яшчэ больш умацаваць ваша пакліканне і выбар. Так паступаючы, ніколі не спатыкнецеся. Тады шырока адкрыецца перад вамі ўваход у вечнае Валадарства нашага Пана і Збаўцы Езуса Хрыста” (2 П 1, 5–11).

---

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

Кс. Юрый Марціновіч

***30 мая – Урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы***
***Мц 28, 16–20***

Адзінаццаць вучняў пайшлі ў Галілею на гару, куды загадаў ім Езус. І калі Яго ўбачылі, пакланіліся Яму, але некаторыя засумняваліся. Тады Езус наблізіўся да іх і сказаў ім: “Дадзена Мне ўсялякая ўлада на небе і на зямлі. Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога. Вучыце іх захоўваць усё, што Я загадаў вам. І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку”.

### Крыніца любові

*Распазнавальным знакам хрысціян ва ўсім свеце, незалежна ад іх культуры і мовы, якой карыстаюцца, заўсёды з’яўляецца знак крыжа. Мы адзначаны ім у дзень свайго св. хросту, а абмыццё хрысцільнай вадой у імя Святой Тройцы ачышчае нас ад першароднага граху і робіць Божымі дзецьмі.*

*Вера ў Айца, Сына і Святога Духа з’яўляецца для нас фундаментальнай. Гэта яна вядзе чалавека да збаўлення. Але ў жыцці хрысціяніна ёсць яшчэ адна вельмі важная адметная рыса. Гэта запаведзь любові да Бога і бліжняга. У першыя стагоддзі хрысціянства паслядоўнікаў Хрыста пазнавалі не толькі па тым, як яны хрысціліся, але і па тым, як любілі адзін аднаго. Крыніцай іх любові была вера ў Трыадзінага Бога. Бо калі шукаем самую дасканалую любоў, знойдзем яе толькі ў Святой Тройцы, у якой Айцец любіць Сына, а Сын – Айца. Святы Дух падтрымлівае і ажыўляе гэтую любоў. Ён таксама робіць нашы сэрцы здольнымі прыняць Божую любоў і жыць ёю.*

*Бывае, што ў жыцці расчароўваемся ў любові. Хтосьці нас пакрыўдзіў, падмануў ці, магчыма, выкарыстаў наша добрае сэрца. Губляем веру ў тое, што любоў увогуле магчымая і што ўсё яшчэ можам любіць. Параненыя, мы пачынаем раніць іншых. На жаль, мы не здольны запаліць полымя любові самастойна. Толькі ў Богу можам знайсці сапраўдную любоў. Толькі Ён праз сваю бясконцую любоў можа вылечыць нашы сэрцы і зрабіць іх здольнымі любіць па-сапраўднаму. Адкрывайма Богу як жывую супольнасць Асоб і дaручайма свае зраненыя сэрцы дзеянню Яго аздараўленчай ласкі.*

*Пане Езу Хрысце, дазволь мне ў Табе знайсці сапраўдную любоў і аздараўляй маё зраненае сэрца!*

***6 чэрвеня – X Звычайная нядзеля***
***Мк 3, 20–35***

Езус з вучнямі прыйшоў у дом. І зноў сабраўся натоўп, так што яны не маглі нават хлеба паесці. Пачуўшы гэта, Яго родныя пайшлі забраць Яго, бо казалі, што Ён страціў розум. А кніжнікі, якія прыйшлі з Ерусаліма, казалі, што Ён мае ў сабе Бэльзэбуба і выганяе дэманаў праз князя дэманаў. А Езус, паклікаўшы іх, казаў ім у прыпавесцях: “Як можа сатана выганяць сатану? Калі валадарства раздзеліцца само ў сабе, не можа выстаяць такое валадарства. І калі дом раздзеліцца сам у сабе, не можа выстаяць такі дом. І калі сатана паўстаў супраць самога сябе і раздзяліўся, не можа выстаяць, але канец яму. Ніхто не можа ўвайсці ў дом асілка і выкрасці ягоныя рэчы, калі спачатку не звяжа асілка, і толькі тады абрабуе дом ягоны. Сапраўды, кажу вам: дараваныя будуць сынам чалавечым усе грахі і блюзнерствы, якімі б ні блюзнерылі. Але хто будзе блюзнерыць супраць Духа Святога, не атрымае даравання ніколі, але падлягае вечнаму асуджэнню”. Так сказаў, бо гаварылі пра Яго: “Ён мае нячыстага духа”. І прыйшлі Маці Яго і браты Ягоныя і, стоячы звонку, паслалі паклікаць Яго. Сядзеў каля Яго натоўп і казаў Яму: “Вось Маці Твая і браты Твае, і сёстры Твае на вуліцы шукаюць Цябе”. І сказаў ім у адказ: “Хто маці Мая і браты Мае?”. І пaглядзеўшы на тых, хто сядзеў вакол Яго, сказаў: “Вось маці Мая і браты Мае. Бо хто будзе выконваць волю Божую, той Мне брат і сястра, і маці”.

### Сям’я Езуса

*Запэўненне Хрыста ў тым, што мы будзем Яго сёстрамі і братамі, калі захочам выконваць Божую волю, гучыць павучальна. Гэта не заўсёды проста, але магчыма. На працягу стагоддзяў гэта пацвярджалі святыя і звычайныя хрысціяне, імёны якіх не зафіксаваны ў хроніках.*

*Няхай у паўсядзённым жыцці перамагае наш Пан і Збаўца. Каб мы заўсёды належалі да Яго сям’і. Так будзе, калі свядома і добраахвотна прымем Добрую Навіну. Такім чынам мы завяжам сваяцтва з Езусам і станем Яго братамі і сёстрамі.*

*Пане Езу Хрысце, учыні, каб я заўсёды мог выконваць Тваю святую волю і адкрытым сэрцам прымаць Евангелле!*

АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

## ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ КСЯНДЗУ БІСКУПУ АЛЯКСАНДРУ КАШКЕВІЧУ

*з нагоды 45-ай гадавіны святарства перасылаем сардэчныя пажаданні: апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, дароў Святога Духа, нязгаснага запалу ў нясенні людзям Добрай Навіны, а таксама шчодрага плёну на Божай ніве.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РЭДАКТАРУ ЮРЫЮ МАРЦІНОВІЧУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні: добрага здароўя, душэўнага супакою, сілы, моцнай веры, аптымізму і шмат радасці ў святарскай паслузе. Няхай Найсвяцейшая Маці вядзе Вас найпрыгажэйшай сцежкай да Бога.*

*Рэдакцыя "Слова Жыцця"*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ АЛЯКСАНДРУ ШЭМЕТУ

*з нагоды гадавіны святарскіх пасвячэнняў ад усяго сэрца жадаем заўсёды быць акружаным промнямі Божай міласэрнасці, Божай ласкай і апекай Найсвяцейшай Маці. Жадаем таксама моцнага здароўя, шчасця, доўгіх гадоў жыцця і шчодрага плёну на ніве Пана.*

*З памяццю ў малітве вернікі парафіі Маці Божай Вастрабрамскай, Гродна-Аўгустовак*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ДЗМІТРЫЮ СЯДЛЕЦКАМУ

*з нагоды юбілею шчыра жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі і дароў Святога Духа ў выкананні душпастырскага служэння. Няхай Ваш жыццёвы шлях будзе прасякнуты радасцю і непагасным аптымізмам, а Маці Божая заўсёды абараняе ад небяспекі і атуляе сваёй бясконцай любоўю. Усяго Вам самага найлепшага!*

*З павагай парафіяне*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ АЛЕГУ ЖУРАЎСКАМУ

*з нагоды 20-годдзя святарскіх пасвячэнняў жадаем усяго самага найлепшага. Няхай усемагутны Бог ахінае Вас ласкамі і благаслаўленнем кожны дзень, Святы Дух асвячае святарскі шлях і ўдзяляе свае дары, Найсвяцейшая Панна Марыя апекуецца Вамі, а Анёл-ахоўнік заўсёды будзе побач. Жадаем таксама моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, добразычлівых людзей побач, радасці і шчодрага плёну на ніве Пана.*

*Удзячныя вернікі і Касцёльны камітэт з Нававельні*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЯНУ РЭЙШАЛЮ

*з нагоды 29-годдзя святарскіх пасвячэнняў і дня нараджэння перасылаем найлепшыя пажаданні. Няхай добры Бог штодзённа адорвае Вас сваімі ласкамі, моцным здароўем, святлом і радасцю, а Маці Божая заўсёды дапамагае. Мы вельмі ўдзячны Вам за дабрыню і зычлівасць.*

*З памяццю ў малітве вернікі капліцы Ліпічна*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ ПРОБАШЧУ ПАЎЛУ СКУБУ

*з нагоды 5-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў жадаем радасці ад кожнага дня душпастырскай паслугі, Божага благаслаўлення і шчодрых дароў Святога Духа. Няхай міласэрны Пан адорыць Вас моцным здароўем і бясконцым натхненнем, святло Хрыста асвячае святарскі шлях, а Маці Божая вядзе найлепшай сцежкай да святасці і прытуляе да свайго мацярынскага сэрца.*

*З малітвай і павагай вернікі парафіі Раготна*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ УЛАДЗІСЛАВУ СУРВІЛУ І КСЯНДЗАМ МІСІЯНЕРАМ

*складаем сардэчныя словы ўдзячнасці за паслугу ў нашым касцёле і прамоўленыя навукі. Няхай Маці Божая Вастрабрамская з нашага алтара ўдзеліць Вам мноства ласкаў, каб Вы служылі на карысць людзям і на хвалу Богу. Дзякуючы вучэнню Хрыста і Вам, мы становімся лепшымі, а таксама ўсё навокал становіцца лепшым.*

*Які шчасны лёс святарскі! Шчасця большага й не сніць,*
*Як заступнікам для Пана і Яго сябрам быць.*
*У святара шчаслівы рукі, у якіх нам Бога нёс.*
*Калі верны яны Пану, дрыжыць вораг Нябёс.*
*У святара шчаслівы вусны – быццам бы Нябёс парог,*
*Праз які ў кожным слове да нас прыходзіць Бог.*
*Сэрца ў святара шчаслівае, бо там Езус Гаспадар,*
*Гэта Божы дом любімы, Ён сам там Валадар.*
*Дарагія святары, мы просім Бога сіл для Вас,*
*Шчасця, радасці, здароўя і шчодрых Божых ласк.*

*Члены касцёльнага хору разам з арганістам і ўся парафіяльная супольнасць*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ КАНОНІКУ ЗДЗІСЛАВУ ВЭДЭРУ

*з нагоды 59-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў сардэчна жадаю добрага здароўя, супакою ў сэрцы, аптымізму, сіл і цярплівасці, а таксама разнастайных ласкаў ад Хрыста. Нястомна абвяшчайце Божае слова і штодзённа будзьце прыкладам веры і любові да Бога ды бліжняга. Няхай Маці Божая Будзе Вашай вернай Спадарожніцай на шляху да Нябеснага Валадарства.*

*З памяццю ў малітве Аліцыя Воранава са Смаргоні*

## ПАВАЖАНАМУ КСЯНДЗУ РУСЛАНУ МАЗАНУ

*з нагоды 11-ай гадавіны святарскіх пасвячэнняў складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Пан Бог заўсёды адорвае Вас благаслаўленнем, Езус Хрыстус у сваёй міласэрнасці чувае над Вамі і накіроўвае дарогай да святасці, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, ахінае любоўю і апекай, Святы Дух асвячае святлом Ваш святарскі шлях і вядзе Божымі сцежкамі, а Анёл-ахоўнік чувае над Вамі ў кожную хвіліну дня і ночы. Няхай кожны дзень будзе напоўнены шчасцем, радасцю, дабрынёй і надзеяй. Моцнага здароўя, зычлівых сэрцаў побач, гатовых прыйсці на дапамогу, а таксама мноства радасных хвілін на жыццёвым шляху.*

*Сябры*

## ПАВАЖАНЫ КСЁНДЗ МІХАЛ СТЭЦКЕВІЧ!

*З нагоды 25-годдзя святарства ды ахвярнай паслугі на карысць Усявышняму і людзям атачаем Вас малітвамі і дзякуем Богу за ўсе дары і ласкі, якія атрымліваем праз Вашу душпастырскую працу. Вы адкрываеце нам праўду веры і самі з'яўляецеся ўзорам служэння Богу і людзям. Штодзень сваімі словамі і ўчынкамі дапамагаеце кожнаму адкрыць сваю душу Пану, убачыць Яго вачыма веры, прыняць Яго ў сваё жыццё, пачуць Яго словы, адказаць на Яго любоў. Дзякуючы Вашаму таленту святара і самаадданай працы парафія ўзбагачаецца духоўна і матэрыяльна. Вашымі намаганнямі ўжо каторы год утрымліваецца ў парадку наш велічны і прыгожы касцёл, а ў парафіі захоўваецца атмасфера сапраўднай сям'і, дзе кожны можа адчуць сябе патрэбным і любімым. І гэта дае надзею на тое, што Божае сэрца на нашых землях будзе жыць і далей, дорачы радасць і Божы аптымізм сталым людзям і маладым, якія шукаюць у жыцці сапраўдных непрамінальных каштоўнасцей. Святаром можа стаць далёка не кожны чалавек, а толькі той, хто адчуў Божы заклік. І мы сёння, у гэтую юбілейную дату святарства, жадаем Вам у кожную хвіліну жыцця дапамогі Пана Бога, апекі Маці Божай і святых апосталаў, моцнага здароўя, духоўных сіл. Хай ніколі не згасае агонь, які асвячае дарогу пастве. Няхай вера, надзея і любоў дапамагаюць Вам і надалей пераадольваць усе цяжкасці на шляху высокага служэння, да якога з цудоўнай падказкі Бога Вы прыйшлі і ў якім атрымалі незвычайную місію абвяшчэння Яго Валадарства ў свеце.*

*Парафіяне касцёла Найсвяцейшай Тройцы ў Бердаўцы, Францішканскі ордэн свецкіх і парафіяне касцёла св. Казіміра ў Нецечы (Першамайскім)*

***Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб'ядноўваць пажаданні.***

КАТАЛІЦКІЯ СМІ БЕЛАРУСІ




**інтэрнэт-партал Касцёла ў Беларусі**

У касцёле Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў польскай в. Стаднікі (каля Кракава) дапаможны біскуп Кракаўскай архідыяцэзіі Дам'ян Мускус OFM удзяліў святарскае і дыяканскія пасвячэнні тром беларусам з манаскай супольнасці сэрцанаў.

Сакрамант пасвячэння ў ступені дыяканату прынялі Валерый Пупкевіч і Уладзіслаў Чуйко, прэзбітэрскае пасвячэнне – дыякан Генадзь Лаўніковіч.

Супольнасць ксяндзоў сэрцанаў з'яўляецца місійнай, а яе члены пакліканы "быць прарокамі Любові і слугамі паяднання людзей і свету ў Хрысце", таму новапрэзбітэр Генадзь Лаўніковіч SCJ атрымаў асаблівую адзнаку – місійны крыж, які будзе насіць на місіях альбо праводзячы рэкалекцыі.

Хутка святар і дыяканы распачнуць сваё служэнне ў Беларусі.




**рэлігійны часопіс**

Сорамна чуць малітву Езуса, які просіць, каб усе "былі адно", ведаючы пры гэтым, колькі існуе падзелаў паміж людзьмі. Няўжо малітва Хрыста дарэмная? Але менавіта гэтая малітва напаўняе нас надзеяй, што еднасць магчымая. Еднасць на ўзор Айца і Сына – а значыць еднасць бязмежнай, ахвярнай любові. Магчыма, зразумеўшы, у чым прычына падзелаў паміж намі, мы зможам зрабіць першы крок у кірунку паяднання.

У свеце Богу варожы кожны, хто імкнецца збудаваць парадак без Яго. На жаль, такія памкненні існуюць і цяпер. Але праўда можа быць толькі адна. Згаджаючыся на існаванне розных праўдаў, часам супярэчных адна адной, больш выгадных альбо дастасаваных да адпаведных умоў, мы вымушаем самі сябе блукаць у цемры.




**беларуская рэдакцыя**

Рэалізуючы волю Пантыфіка, Святы Пасад стварыў фонд для вывучэння пытанняў штучнага інтэлекту з пункту гледжання яго этычнага выкарыстання. Фонд называецца "renAIssance", што з'яўляецца спалучэннем слова "renesans" і англійскай абрэвіятуры AI (штучны інтэлект).

Раней у Ватыкане праходзіла сутрэча з удзелам прадстаўнікоў карпарацый Microsoft і IBM, Харчовай і сельскагаспадарчай арганізацыі ААН (FAO) і Святога Пасаду, пасля якой удзельнікі прыйшлі да высновы, што сёння існуе патрэба ў этычным алгарытме: трэба кадыфікаваць этычныя прынцыпы і нормы на зразумелай і зручнай машыне мове. Толькі так штучны інтэлект стане інструментам гуманізацыі свету. Спатканне завяршылася падпісаннем сумеснага "Рымскага этычнага заклiку".




**інтэрнэт-партал Гродзенскай дыяцэзіі**

21 жніўня ў парафіі св. Казіміра ва Уселюбе, дзе знаходзіцца самы старажытны касцёл Беларусі, адбудзецца фестываль-рэкалекцыі "Novafest" для вернікаў каталіцкіх парафій. Мэта фестывалю – паглыбіць духоўнае перажыванне прысутнасці Бога ў жыцці вернікаў праз разнастайныя духоўныя практыкаванні. Фестываль працягнецца з 10.00 да 22.00.

Для ўдзелу трэба зарэгістравацца па тэлефонах:
(8 033) 320-11-48 – Наталля;
(8 044) 759-08-67 – Ірына;
(8 029) 124-93-21 – Вольга.

**Актуальныя навіны, фота, відэа. Даведайся больш пра жыццё Каталіцкага Касцёла на Гродзеншчыне!**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** галоўны рэдактар – **кс. Юрый Марціновіч;**
заснавальнік – **Гродзенская рымска-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання – **1997**; рэгістр. **№1085**; выдавец – **курыя Гродзенскай дыяцэзіі.**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** тэл. **(80152) 61-05-37; (8029) 571-30-77** (мтс); e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com; http://www.slowo.grodnensis.by.** Тэхнічны рэдактар – Юрый Лавыш.
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»**, ЛП 02330/39 ад 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 1981; тыраж 4700; аб'ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты.
Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная.